# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Рэдагуе Калегія, Адрыс Рэдакцыі: Цана 1 даляр**

**"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 44 СЬНЕЖАНЬ — 1975 — DECEMBER ГОД. 21**

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

### ДАСТОЙНАМУ СЬВЯТАРСТВУ І ЎСІМ ВЕРНІКАМ НАРОДУ БЕЛАРУСКАГА

**ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!**

*... І нарадзіла Сына Свайго першароднага, і спавіла Яго, і палажыла Яго ў ясьлі, бо ня было Ім месца ў гаcподзе. (Лук. 2-7).*

**Дарагія браты й сёстры!**



У вялікай радасьці пасылаем Вам дабраславёнае вітаньне з Найвялікшым Сьвятам Нараджэньня Хрыстовага — Сьвятам суцяшэньня, любові, надзеі на сьвятлейшую будучыню. Бо цяжка было-б жыць чалавеку на зямлі, каб гэтае надзеі ён ня меў. Хрыстос прынёс на зямлю Праўду Божую, Любоў, Міласэрдзе й Літасьць, супраць ілжы, гвалту, зла й чалавеканянавісьці.

Нараджэньне Хрыста „азарыла сьвет Сьвятлом Розуму", а сэрцы людзей добрае волі — вялікаю радасьцю; і яны за ангеламі пялі: „Слава на вышынях Богу, і на зямлі мір, між людзей дабраволеньне". Гэтае Сьвятло Нябеснае — Збаўленная для нас Любоў

Божая. Бо-ж Хрыстос абвесьціў, што ўсе людзі й народы роўныя прад Богам, усе яны — браты й сёстры. Дзеля гэтага яны не павінны гнобіць і ненавідзець, а павінны любіць адзін аднаго, памагаць узаемна адзін аднаму, чыніць дабро, а тады будзе радасьць і мір на зямлі. Хрыстос запавядаў роўнасьць, братэрства, згоду, і роўна ў любові спатыкаў кажнага, хто ў веры зварачаўся да Яго, і кажнага ашчасьціў Ласкаю Сваею.

Бог стварыў чалавека подля падабенства Свайго, адухатварыў яго, і даў яму волю кіравацца ў жыцьці сваім розумам. „І не пасылаў Бог Сына Свайго ў сьвет, каб судзіць сьвет, але каб сьвет быў выбаўлены праз Яго”. (Ян. 3-17). Хрыстос прыйшоў да нас, як чалавек, каб нам паказаць, што асноваю жыцьця нашага ёсьць любоў, якая злучае нас з Богам, а таму толькі такое жыцьцё дае задаваленьне й запраўдную радасьць. І кажны год Нараджэньне Хрыстовае прыпамінае нам Ягоную навуку, кажны год Хрыстос адраджаецца ў сэрцы нашым, і падае надзею на сьвятлейшую будучыню. Запаветы Хрыста — Вера, Надзея, Любоў ажыцьцяўляюць чалавека. Таму Сьвята Нараджэньня Хрыста так дарагое й раднаснае для нас.

Часта ў жыцьці мы губляемся, трацім надзею, ня ведаем што рабіць, каб жыць добра, прыгожа, мудра, мець супакой і радасьць. Таму вось так добра нам ведаць, што Хрыстос дасканалы раднік наш. Ён заўсёды ахвотна з любоўю павядзе нас, навучыць, пакажа шлях, парадзіць, абы толькі мы мелі веру й слухалі Ягоных Запаветаў.

І гэта добра ведаць нам усім: маладым і старым, бо-ж мы маем вялікія заданьні як прад нашаю сьв. Царквою, так і прад нашым церпячым у няволі народам і прад сваёю Радзімаю. І як добра нам ведаць, што народжаны Хрыстос ня толькі стаўся Чалавекам, але ёсьць і Бог Усемагутны, Моцны. Ён толькі можа даць нам раду й заўсёды гатовы памагчы нам, даць сілу для перамогі ўсякіх цяжкасьцяў. Пра гэта найлепш ведаў сьв. Апостал Павал, які перажыў шмат больш за нас няўзгодаў у часе пашырэньня навукі Хрыста. Аднак ён усё перамог і ў радасьці ўсклікнуў: „Усё магу ў Хрысьце, Хто ўзмацняе мяне”. (Філ. 4, 13). Дзеля таго й нам радасна ведаць, што Хрыстос ня толькі нашая Рада, але й нашая Сіла! І гэтаю сілаю, калі толькі мы будзем годныя яе, і мы ўсё пераможам.

Радасьці нашага жыцьця на зямлі прамінаюць, найпрыгажэйшыя кветкі вянуць, уцехі маладосьці зьнікаюць, жыцьцёвыя сілы слабеюць, заміраюць. І толькі ў Хрысьце, Спасе нашым, мы маем Айца жыцьця вечнага, і толькі праз Яго мы навекі жывыя, подля Слова Яго — „Хто верыць ў Сына, мае жыцьцё вечнае” (Ян. 3-36).

Нараджэньне Хрыста адбылося з волі Айца Нябеснага, каб усьведаміць людзей, што не зямное ўладарства й сіла яго кіраў-



*З НАРАДЖЭНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ*
*і з Новым Годам вiншуем*
*Уладыкаў нашых*
*МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ,*
*АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ,*
*Пачэснае Сьвятарства і ўвесь клер царкоўны,*
*Грамадзкія Ўстановы й Арганізацыі Моладзі нашай,*
*Усіх Братоў і Сёстраў у Хрысьце, і ўвесь Беларускі Народ.*

**Рада БАПЦаркви**

нікоў маюць вырашаючае значэньне, а толькі „Уладарства Яго ня з гэтага сьвету” (Ян. 18-36). „бо Ўладарства Божае ўнутры вас ёсьць” (Лук. 17, 21), гэта значыць у сэрцах людзкіх. Таму Хрыстос у часе Свае кароткае зямное навукі рупна падрыхтоўваў людзей да Божага Ўладарства, паказваў дарогу да Яго, абяцаў дапамагаць тым, хто ўверыць у Яго.

Адчынім-жа й мы ў Сьвята Нараджэньня Хрыста свае сэрцы для Яго закліку, ды йдзем да Ўладарства Нябеснага й Жыцьця Вечнага паводля Ягоных Сьвятых Запаветаў.

Адкрыем сэрцы нашыя Нованароджанаму Збавіцелю нашаму. Няхай Сьвятло Зоркі Бэтлеэмскае зьзяе ў іх, а мы адзінымі вуснамі й адзіным сэрцам з вялікаю любоўю да Яго прамовім: О Хрысьце Божа, Нованароджаны Збаўца наш! Сьвятло Праўды, Дабра, Супакою, Ласкі й Міласэрдзя! Ты асьвятляеш і асьвячаеш кажнае стварэньне, кажную душу, якая прыходзіць на сьвет. Асьвяці шляхі й чыны нашыя, каб мы маглі выпаўняць сьветлую волю Тваю, каб мы ўсе працавалі для ўзмацненьня Твайго Ўладарства Божага на зямлі, каб зьнікла зло, каб сьветлая радасьць напоўніла сэрцы ўсіх нас, на выгнаньні й нашых Братоў і Сёстраў на Бацькаўшчыне.

Радасна вітаем усіх з гэтым Вялікім Сьвятам Нараджэньня Хрыстовага й з Новым 1976 Годам! Няхай гэты год станецца для Вас крыніцаю духовага супакою, задаваленьня й радасьці.

Ласка й Супакой Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога Айца й Лучнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі, цяпер і заўсёды й павек вякоў. Амін.

Каляды, Лета Божага 1975-га

З Ласкі Божае

**✠ Пакорны ў Богу Мітрапаліт Андрэй**
**✠ Пакорны ў Богу Архіепіскап Мікалай**

**Шчырыя вітаньні з Вялікім Сьвятам Нараджэньня Хрыстовага, і найлепшыя пажаданьні ў Новым 1976 годзе.**

**Прат. Васіль Кендыш з сям'ёй**

# ЧВЭРЦЬ ВЕКУ СЛУЖБЫ ПРЫ СЬВ. ПРАСТОЛЕ



25 чырвеня сёлета ўрачыста адзначаны 25-летні юбілей сьвятарскае службы цяперашняга Мітрапаліта Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Ўладыкі Андрэя. У гэтым-жа часе Ўладыка Андрэй увайшоў у 75-ты год жыцьця.

Калі пасьля другое сусьветнае вайны беларускае грамадзтва на эміграцыі ўважала за неабходнае арганізаваць царкоўнае жыцьцё БАПЦарквы, тады грамадзянін Аляксандар Крыт адчуў духовае пакліканьне на службу Богу ў БАПЦаркве. У 1950 годзе, быўшы яшчэ ў Ангельшчыне, быў пасьвячаны ў дыяканы, а 25 чырвеня таго-ж году прыняў пасьвячэньне ў ерэі ад Архіепіскапа Васіля. І з таго часу айцец Аляксандар пачаў працу на ніве царкоўнай.

Пачаткі рэлігійнае працы далі вынікі добрыя. У Ангельшчыне было арганізавана царкоўнае жыцьцё ў большых аседлях эмігрантаў Беларусаў. Там а. Аляксандар працаваў да 1961 году. Аднак, для развою і ўзросту БАПЦарквы суджана яму было ахапіць шырэйшы засяг дзейнасьці й пераехаць да большага скупленьня вернікаў БАПЦарквы. У лютым 1961 году ён пераяжджае ў Амэрыку, а на Ангельшчыну па некаторым часе быў пасьвячаны ў сьвятары Ян Абабурка.

У Амэрыцы а. Аляксандар пераняў Парафію Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе: там у сане Пратаерэя працаваў да 1968 году.

Разьвіцьцё царкоўнага жыцьця й абставіны працы змусілі Пратаерэя Аляксандра паехаць да Аўстраліі, дзе жыў Галава БАПЦарквы Архіепіскап Сяргей, і прыняць хіратонію ў Епіскапы. Пры хіратоніі а. Аляксандар быў нарачоны імём Андрэй.

Незадаўга пасьля хіратоніі, у 1970 годзе, нечакана, яшчэ ў поўнай сіле, памёр Архіепіскап Васіль, і Ўладыка Андрэй прыняў кіравецтва Епархіяй у Амэрыцы. А ў 1971 годзе суджана было яму абняць кіравецтва БАПЦарквою, калі старэчы ўжо Галава Царквы Архіепіскап Сяргэй 2-га кастрычніка 1971 году адыйшоў на вечны супачынак.

Ад самага пачатку працы на царкоўнай ніве, як і на становішчы Галавы Царквы, у Ўладыкі Андрэя было жаданьне й сталае імкненьне да аднаўленьня гістарычнае незалежнасьці нашае Праваслаўнае Царквы. І пры ягоным главенстве гэтае жаданьне ягонае, як і ўсіх вернікаў БАП-Царквы, ператварылася ў наяўнасьць.

У днёх 27-29-га травеня 1972 году на Саборы БАПЦарквы пры Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, штату Нью Джэрсі ў ЗША, была абвешчана Мітрапалія. У пастанове Сабору гаварылася: „БАПЦарква вызнае аўтарытэт Пасаду Ўсяленскага Канстантынопальскага Патрыярха ... Прадоўжваючы спадчынную ідэю самастойнасьці Беларускае Праваслаўнае Царквы, Сабор выбраў Мітрапаліта на Пасад Першага Герарха". Выбраным быў Уладыка Андрэй. Сваё 25-лецьце службы БАПЦаркве Ўладыка Андрэй сьвяткаваў на становішчы Мітрапаліта.

Урачыстае юбілейнае сьвяткаваньне было вызначана на дзень 13-га ліпеня. У сыботу 12 ліпеня ў Кліўленд прыбылі: Высокапраасьвячэнны Архіепіскап Мікалай, Дастойныя айцы — Аляксандар Яноўскі, з Парафіі ў Гайлэнд Парку штату Нью Джэрсі, і Максім Таўпека з Парафіі ў Дэтройце — і госьці з бліжэйшых і далейшых асяродкаў. Увечары 12-га ліпеня была адслужана Вячэрня, а ў нядзелю ў паўдзясятай гадзіне пры ўваходзе ў Сабор Уладыкаў спаткаў з хлебам-сольлю стараста царкоўны Адам Пракаповіч, і пачалася Архірэйская Саборная Багаслужба. Багаслужбу ачоліў Уладыка Мікалай у суслужэньні прыбылага сьвятарства й мясцовага Пратадыякана Міхайла Страпко. Служба праводзілася ў суправоджаньні прыгожага, мілагучнага хору пад кіравецтвам заслужанага рэгента К. Кіслага. Па Сьв. Літургіі для Юбілянта быў адслужаны Малебен Удзячнасьці з многалецьцем.

Пасьля Багаслужбаў у прыцаркоўнай залі пачалася другая частка ўрачыстасьці — Застольная Бяседа, пры вялікай колькасьці ўдзельнікаў, фактычна, колькі магла зьмясьціць заля. Галоўным гаспадаром на абедзе быў Уладыка Мікалай. Першым вітаў Уладыку Юбілянта Старшыня мясцовае Парафіяльнае Рады Кастусь Калоша. Авацыйна ўспрынялі прысутныя мамэнт, калі парафіяне суседняе Ўкраінскае Парафіі Сьв. Тройцы с-ва Панамонэнкі паднесьлі Ўладыку Андрэю букет кветак з сьвечкамі й іконкамі.

У часе застольнае бяседы прысутныя выслухалі прывітальную прамову Ўладыкі Мікалая, які азнаёміў з тымі ўмовамі й магчымасьцямі, у якіх сённяшні Мітрапаліт Андрэй пачынаў арганізоўваць рэлігійнае жыцьцё БАПЦарквы ў Англіі. З асаблівай увагаю былі выслуханы палкія прамовы ўкраінскіх сьвятароў: Мітрафорнага Пратаерэя Сьцяпана Ганковіча й Пратаерэя Хведара Кавaленка, якія адзначылі шчырае супра-

цоўніцтва Ўладыкі Андрэя з Украінскімі Епіскапамі й Ерэямі, і яго гатовасьць прыйсьці з дапамогай — у справах рэлігійных. Як рэлігійнага й грамадзкага працаўніка, віталі Ўладыку: а. Аляксандар Яноўскі, Старшыня Парафіяльнае Рады Украінскае Праваслаўнае Царквы Сьв. Тройцы ў Кліўлендзе Рожнятоўскі, вернікі — Мікола Ягоўдзік, Др. Я. Сажыч, Інжынер Махахэй, рэгент К. Кіслы, Васіль Семянчук, Кошкода, Панамонэнка.

Прачытаныя былі прывітаньні ад усіх парафіяў і парафіяльных радаў БАПЦарквы: з Амэрыкі, Канады, Англіі, Бэльгіі, Аўстраліі, ад Пратаерэя Аляксандра Кулакоўскага, Прат. Міхайла Мігая, а. Гэорга Дыонліча, Архімандрыта Язэпа, ад. Рады БАПЦарквы ў Англіі — Прат. Я. Абабурка і Я. Калбаса.

Былі прачытаныя тэлеграмы й прывітаньні й ад цывільных установаў: ад Старшыні Рады БНР — Д-ра Жук-Грышкевіча, ад Галоўнай Управы БАЗА — А. Шукелойця, Д-ра Я. Запрудніка, ад Беларускае Маладзежнае Арганізацыі — Азарка, ад Згуртаваньня Беларусаў ў Вялікабрытаніі, аддзелу ў Брадфордзе — Калбаса й Віценчык, прыватна ад асобаў — Інж. М. Гарошкі, сп. Баяроўскага, сп. Гралеўскага, с-ні Чэрры, с-ва Войтэнкаў, с-ва Каханоўскіх, с-ва Міхалюк і іншых.

Можа найбольш характэрнае й шчырае прызнаньне й ацена пастырскае працы Ўладыкі-Юбілянта выказана ў пісьмовым прывітаньні Пратапрасьвіцера а. Аўгена Смаршчка з Бэльгіі на імя Старшыні Юбілейнага Камітэту: „Ад Уладыкі-Юбіляра можна пачуць, з чаго пачынаў ён і ў якіх абставінах працаваў і служыў у Ангельшчыне. Ведамы ўсім высілак прыкладных беларускіх парафіянаў БАПЦарквы ў Кліўлендзе, як і ў іншых Беларускіх парафіях. Але не заўсёды ведамыя й аценены бясонныя ночы ад клопатаў і перажываньняў за слабасьці, танныя амбіцыі, а навет і нядображычлівасьць некаторых. Было-ж гэткіх начэй і дзянькоў за 25 гадоў у Юбіляра ня мала. Гэта крыж узяты дабравольна... Крыж, аднака, перамагае. Пераможным застаецца й Пачэсьнейшы Юбіляр, а праца Ягоная й цярпеньні даюць плён. Вялікае й пазытыўнае будуецца, аднак, на добрым і на ахвярнасьці так адзінкі, як і грамады.

Прасем, няхай Усемагутны й Справядлівы Бог, паводля малітваў нашых і служэньня нашага, шчодра ўзнагародзіць здароўем і сіламі Дарагога Ўладыку нашага Мітрапаліта Андрэя яшчэ на доўгае служэньне Славе Божай, нашай БАПЦаркве й Народу нашаму, раскіданаму па чужыне".

У канцы бяседы прамовіў сам Уладыка Андрэй. Узрушаны выказваньнямі папярэдніх прамоўцаў, Ён сказаў: „Мне здавалася, як-бы й не пра мяне тут гаварылася, а пра каго іншага... Я-ж гатовы ўсе свае сілы й далей прысьвяціць працы для свае БАПЦарквы. Цяпер маё галоўнае жаданьне — дачакацца хіратоніі яшчэ аднаго Епіскапа для БАПЦарквы. Я выконваю й буду выконваць не сваю волю, а Божую, бо лічу, што служыць Богу й свайму Народу прызначана Ўсемагутным. Я шчыра дзякую ўсім тым, хто спрычыніўся да зарганізаваньня гэтае ўрачыстасьці, усім, якія прыйшлі на мой юбілей, усім ахвярным і спачувальным.

---

## ІКОНА ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ

Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы выдала ікону Жыровіцкае Божае Маці. Сп. Аляксандар Асіпчык ахвяраваў на гэтую мэту 200 даляраў, за што Кансысторыя складае яму шчырую падзяку.

Ікону можна набыць у парафіях БАПЦ, або атрымаць з Кансысторыі. Цана іконы 5 даляраў.





# У ГАДАВІНУ СЬМЕРЦІ СЬВ. ПАМЯЦІ АРХІЕПІСКАПА СЯРГЕЯ

Дня 5-га кастрычніка сёлета Беларусы ў Кліўлендзе адзначылі чацьвёртую гадавіну сьмерці Першагерарха БАПЦарквы Сьв. Памяці Архіепіскапа Сяргея маленьнем за душу Ягоную. Ён адыйшоў ад нас на вечны супачынак другога кастрычніка 1971 г. у веку 85 гадоў. Ад таго часу мінула ўжо чатыры гады, і надыходзіць пятая гадавіна Ягонае сьмерці.

Успамінаючы гэтую жалобную падзею Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на выгнаньні, і ў надыходзячым годзе будзем маліць Усемагутнага Бога за супакой душы Дастойнага Герарха-Адраджэнца, і будзем ушаноўваць Ягоную памяць. Гэта павінна чыніць кажны год кажная беларуская грамада ўва ўсіх нашых цэрквах, бо ён пасьвяціў Сваё жыцьцё для БАПЦарквы, яе любіў і выконваў гэта ня толькі ў словах, але і ў чынах і праўдзе.

Нялёгкім было жыцьцё Дастойнага Ўладыкі. Па сканчэньні 14-ёх год жыцьця бацькі аддалі яго ў манастыр, дзе ён павінен быў прайсьці даволі суворую школу. Душпастырскі абавязак пачаў выконваць толькі ў 1932-м годзе, а ў 1937 годзе бальшавіцкімі пагромшчыкамі Царквы ўжо быў арыштаваны й высланы на катаржную працу у Бярдзянск, пры Азоўскім моры, на рыбныя промыслы.

Вызваліўся з лягеру толькі ў часе другое сусьветнае вайны. У 1943 годзе быў пасьвячаны на Епіскапа. Аб пачаткавай Ягонай рэлігійнай дзейнасьці ў нас захавалася толькі некалькі дакумантаў, якія яшчэ ня былі публікаваныя, а мяноўна: Благаславенная Грамата з дня 15 студзеня 1943 г., з подпісам Мітрапаліта Палікарпа; Пасьветчаньне з дня 5-га лютага 1943 г. — зацьверджаньне Яго як Епархіяльнага Епіскапа на Епархію ў Мелітопалі, і Пасьветчаньне з дня 10. 5. 1944 г., ад Варшаўскага Мітрапаліта Дыянісія, якое сьцьвярджае, што Епіскап Сяргей прабываў з Мітрапалітам Дыянісім і Сьвяцейшымі Патрыярхамі Праваслаўнымі ў кананічным яднаньні...

На эміграцыі, пасьля здрады Епіскапаў БАПЦарквы й далучэньня іх да Расейскае Зарубежнае Царквы, Уладыка Сяргей ачоліў асірацелых вернікаў БАПЦарквы. Узначальваючы БАПЦаркву Ўладыка ня шукаў собскае славы, гонару й маатр'яльнага дабрабыту, але Ягоная грунтоўная веда царкоўных правілаў, глыбокая рэлігійнасьць і шляхотнасьць манастырскага ўзгадаваньня перамагалі зямныя няўзгоды...

Ня любіў Уладыка ўпрыгожваць сябе дарагімі каляровымі й пышнымі ўборамі. Усё было ў яго простае, чыстае й само сабою ўпрыгожвалася, бо ўсё было самым выканана згодна манастырскіх правілаў.

Галоўнаю мэтаю ягонага жыцьця было выкананьне Хрыстовых Запаветаў і дбаньне пра павялічэньне складу Епіскапаў БАПЦарквы.

Ня любіў шмат гаварыць, але й ня быў моцна ў сабе замкнёны. З ім заўсёды можна было пагаварыць і атрымаць добрыя парады. Быў ня толькі пастырам, але й духовым правадыром. Малемся й памінайма Дастойнага Адраджэнца БАПЦарквы, сьв. памяці Архіепіскапа Сяргея, добрым словам і малітвамі.

† **Вечная Яму памяць!**



## СЬВЯТА ХРЫШЧЭНЬНЯ ГАСПОДНЯГА — БОГАЗЬЯЎЛЕНЬНЕ

Хрышчэньне Господняе — адно з найвялікшых хрысьціянскіх сьвят. Хрыстос Бог зыйшоў на зямлю праз Нараджэньне ад Чыстае Дзевы Марыі і ўчалавечыўся; і прыняў хрышчэньне ад зямнога чалавека — Прарока й Прадцечы Яна Хрысьціцеля; і потым прыняў сьмерць на крыжы, каб уваскроснуць, паканаць сьмерць і выбавіць род чалавечы ад грэху сьмяротнага.

Пра зямное жыцьцё Ісуса Хрыста, а таксама й Яна Хрысьціцеля, да 30-ці год іхнага жыцьця амаль нічога не гаворыцца ў Эвангельлі. Толькі ў Эвангеліста Лукаша апісаны мамэнт, калі 12-цілетні Ісус у часе сьвята Пасхі застаўся ў Ерусалімскім храме, дзе бацькі знайшлі Яго на трэйці дзень сярод вучыцялёў у размове з імі . . . „і ўсе, хто слухаў Яго, дзівіліся з розуму й адказаў Яго” (Лук. 2, 47). І далей зазначаецца, што Ісус пайшоў да Назарэту і быў у паслушэнстве ў бацькоў.

Паводле тагачаснага закону юдэйскага нікому не дазвалялася быць настаўнікам ані сьвятаром да 30-летняга ўзросту. Дык і навука Яна Хрысьціцеля, а таксама й дзеяньні Ісуса Хрыста пачаліся па 30-х гадох іхнага ўзросту.

Тады раптам разьнеслася чутка, што ў пустыні Юдэйскай (на захадзе ракі Йардана й Мэртвага Мора) зьявіўся нязвычайны чалавек. „І ён прайходзіў па ўсіх аколіцах Йарданскіх, абвяшчаючы хрышчэньне дзеля адпушчэньня грахоў” (Лук. 3, 3). Гэта быў Ян Хрысьціцель. „Пакайцеся, бо наблізілася Уладарства Нябеснае, — казаў ён: — прыгатуйце шлях Госпаду, прастуйце сьцежкі Яму” (Мцв. 3, 2-3).

І людзі йшлі й ехалі — з усяе Юдэі, з Ерусаліму ды аколіц Йардану; прыходзілі ў пустыню, каб пабачыць і пачуць прарока, які жыў у пячоры, карміўся акрыдамі й дзікім мёдам, піў толькі ваду, насіў адзеньне з вярблюджага воласу; прыходзілі да Яго, каб хрысьціцца, спавядаючыся ў грахох сваіх, маючы надзею, што грахі будуць дараваныя. Тагачасны Юдэйскі гісторык Флавій сьветчыць, што народ так захоплены быў пропаведзямі Яна, што прыходзіў да яго грамадою, і што ўлада духовая Яна над людзьмі была такою вялікаю, што людзі гатовыя былі рабіць усё, што Ян казаў ім. І як піша Эвангеліст Мацьвей, навет шмат фарысеяў і садукеяў прыходзіла да яго хрысьціцца.

„Калі-ж народ быў у чаканьні, і ўсе ў сэрцах сваіх думалі пра Яна, ці ня Хрыстос ён, — Ян усім адказваў: „Я хрышчу вас вадою, але йдзе Мацнейшы за мяне, у Каго я недастойны разьвязаць рамень абуткуЯгонага; Ён будзе хрысьціць вас Духам Сьвятым і агнём” (Лук. 3, 15-16).

І вось аднаго разу прыходзіць Ісус на Йардан да Яна, каб хрысьціцца ў яго. І сказаў Ян: „Вось Агнец Божы, Які прымае на Сябе грахі сьвету. Гэта Той, пра Каго я сказаў — за мною йдзе Муж, Які стаў наперадзе мяне, бо Ён першы за мяне быў” (Ян. 1, 29-30). Сьпярша Ян не адважваўся хрысьціць Ісуса й казаў: „Мне трэба хрысьціцца ў Цябе, а Ты прыходзіш да мяне” (Мацьв. 3, 14). Але пачуў адказ: — пакінь цяпер, бо нам належыць выпаўніць усякую праўду, — і прыняў Яго Ян.

Ісус хрысьціўся й маліўся Богу Айцу. „І расчыніліся Яму нябёсы, і Дух Сьвяты зыйшоў на Яго ў выглядзе голуба, і голас з неба прамовіў: „Гэта Сын Мой Улюблёны, у Ім Маё Дабраволеньне” (Мацьв. 3, 16-17). Пасьля гэтага Ян урачыста асьветчыў народу: „Я бачыў Духа, Які зыйходзіў з неба, як голуб, і стаў Ён над Ім. І я ня ведаў Яго; Той, Хто паслаў мяне хрысьціць вадою, сказаў мне: — Над кім угледзіш Духа, гэта й ёсьць Той Хто Духам Сьвятым хрысьціць. І я бачыў і асьветчыў, што Ён ёсьць Сын Божы (Ян. 1, 32-34).



## З ГІСОРЫІ ЛЯСЬНЯНСКАГА АБРАЗА БОЖАЕ МАЦІ



Лясьнянская ікона Божае Маці

На Берасьцейшчыне, з Белавежскай Пушчы, дзе пабудавана мястэчка Гайнаўка, выцякае рэчка — Лясная, — якая ля места Берасьце ўліваецца ў большую рэчку — Буг, цяперашняй мяжы з Польшчай. У гэтым прыгожым кутку Беларусі сталася цудадзейнае зьяўленьне Абраза Божае Маці. У 1683 годзе, 14-га верасьня, прыпадкова прайходзячы дарогай каля гэнае рэчкі, селянін Аляксандар Стальмашук знайшоў невялічкі мэталёвы абразок (велічыні архірэйскае Панагіі), з лікам Дзевы Марыі з Яе Сынам Ісусам Хрыстом на правой руцэ, авальнага выгляду, укараняваны, з праменьнямі навокал абразка. Знойдзены Абраз стаўся дабрадзействам для жыхароў гэтае мясьціны, і з часам праславіўся вялікімі цудамі, пра што перахоўваецца там памяць, дарма што арыгінал яго знайходзіцца ў Францыі ды навет у чужых руках.

Відаць, селянін Стальмашук належаў да парафіі ў вёсцы Буковічы,

Сьвята Хрышчэньня Господняга завецца яшчэ Богазьяўленьнем, а гэта таму, што ў часе Богаслаўленага мамэнту Хрышчэньня Сына Божага адкрыліся людзям тры Асобы Прасьвятое Тройцы: Бог Айцец, Які з неба голасна асьветчыў — гэта ёсьць Сын Мой Улюбёны, — Сын Божы, Які хрысьціўся ў Йардане й Дух Сьвяты, Які, як голуб, зыйшоў на Ісуса. Гэта было зьяўленьне людзям дагматычнае тайны, няведамае ў Старым Запавеце, пра Бога Аднасутнага ў Прасьвятой Тройцы — Бога Айца, Бога Сына й Бога Духа Сьвятога.

Бязгрэшны Господ Ісус Хрыстос ахрысьціўся не для Сябе, але для нас. З самага Свайго Нараджэньня, як наш Збавіцель, Ён усрыняў на Сябе грахі роду людзкога, і ўсё, што тварыў на зямлі, тварыў для таго, каб выбавіць нас ад грахоў. З гэтымі, па Сваёй волі прынятымі на Сябе, грахамі Ён прыйшоў на Хрышчэньне да Яна. У Асобе Господа Ісуса Хрыста як-бы хрысьцілася ўсё людзтва, у Асобе Ісуса зыйшоў Дух Сьвяты й на людзей, і ў Асобе Ісуса да ўсяго чалавечага роду прароча адносіўся голас Айца Нябеснага — „Гэта Сын Мой улюблёны, у Ім Маё Дабраволеньне”. Сваім Хрышчэньнем ад Яна Хрыстос, паводле слоў Яна Залатавуснага, выпаўніўшы хрышчэньне, адчыніў дзьверы для хрышчэньня новазапаветнай Царквы, хрышчэньня, праз якое мы ачышчаемся ад грахоў, пры якім на кажнага чалавека зыйходзіць Дух Сьвяты і, прыняўшы Духа Сьвятога, людзі становяцца сынамі Айца Нябеснага.

у якой была царква, бо знойдзены абразок перадаў сьвятару гэнае царквы, а сьвятар завесіў яго пры іканастасе ў адпаведным ківоце, каб быў відзён усім малельнікам і каб пабачылі тое новае, чаго ня было раней. Хранікальных запісаў з гісторыі Абраза не захавалася. Розныя гістарычныя зьмены спрыялі руйнаваньню, нішчэньню й раскраданьню мясцовых вартасьцяў. Маем толькі частковыя пераказы. Адзін з гэтых пераказаў больш разгалошаны, бо быў першым, калі пачаліся цуды й розныя нязвычайныя выдарэньні.

У пэўным часе праводзілася чыстка царквы перад вялікім сьвятам. Прыйшлі жанчыны прыбіраць царкву. Адна з іх была хворая невылячальнай хваробай. І вось яна надумалася памаліцца да знойдзенага Абраза Божае Маці, і адважылася адчыніць шкляную рамку й пацалаваць яго. І калі гэта ўчыніла, зараз-жа адчула ў сабе сілу выздараўленьня, і тут-жа прызналася жанчынам, якія былі разам зь ёю, а тыя пацьвердзілі перад сьвятаром гэтае здарэньне. І слава пра цудоўнае аздараўленьне хворае жанчыны ад дотыку й малітвы да знойдзенага абразка маланкай разыйшлася па ўсім Падлясьсі й Берасьцейшчыне, і пачаліся паломніцтвы да тэй сельскай царкоўкі, у якой знайходзіўся знойдзены абразок. І колькі якіх цудаў дзеялася, — паволі ўсё забываецца. А хронікі, якія звычайна вяліся пры нашых цэрквах, нашыя „дабрадзеі" панішчылі, ды ня толькі-ж хронікі, але й самыя цэрквы. І мы мала чаго ведаем і пра іншыя цудадзейныя абразы на Беларусі.

Прайшло 115 гадоў ад 1683 году. А ўжо ў 1795 годзе Берасьцейшчына падпала пад расейскую акупацыю. Беларусы на Берасьцейшчыне тады былі пераважна вуніятамі. Скасаваньне вуніі адбылося значна пазьней, але ўжо тады пачалася падрыхтоўка да павароту вуніятаў да Праваслаўнае Царквы; гэтай справай займаліся асаблівыя місіянерскія брацтвы, што пачало праводзіцца й на Берасьцейшчыне. І як падаюць мясцовыя паданьні, пры вёсцы Буковічах, у міжчасе прыбылае некае таварыства з некалькімі дзясяткамі рабочых, расчысьціла месца пад будоўлі, і праз некі час былі пастаўленыя будынкі, у якіх разьмясьціліся прыезныя праваслаўныя манашкі. Яны адчынілі школу й нейкі прытулак для сіротаў, і ўжо пачаліся новыя падзеі й зьмены Берасьцейшчыны на новы лад.

І зноў прайшло шмат часу, аж пачаліся ваенныя падзеі 1914-1918-х гадоў, а за імі зноў перамены: рэвалюцыя ў Расеі, і ўцёкі людзей, хто куды. І ўспомненыя манашкі, якія мелі ўжо пры вёсцы запраўдны манастыр, і перанесьлі да манастыра ўспамянуты абразок — арыгінал, выэміґравалі ў Францыю ды пасяліліся ў 80-ці клм. ад Парыжа ў мясцовасьці Проўмон, дзе таксама залажылі манастыр, які назвалі Лясьнянскім ад імя Абраза Божае Маці Лясьнянскае; пры манастыры маецца эміґранцкі цэнтр расейскіх манархістаў.

Але й палякі не пакінулі гэтае справы абыякава. У 1927 годзе падрабілі з мэталю копію Лясьнянскага Абраза, абвесьцілі яго арыгіналам, прывязьлі ў касьцёл м. Ломжы, ды пачалі сваю „місію" наварочваньня ўжо не на вуніяцтва праваслаўных беларусаў, а на р.-каталіцтва, а потым пачалі спробы рабленьня з беларусаў праваслаўных палякоў.

Вось такія падзеі адзначыліся пры гісторыі Лясьнянскага Абраза Божае Маці з Берасьцейшчыны, на якой ён славіцца ў розных копіях але не ў арыгінале, пра што мне ўдалося сабраць гэтыя весткі.

**А.Асіпчык**

**Здымак іконкі ўзяты з часапісу „Божым Шляхам", №59.**



# ЗАГАДКІ ЖЫЦЦЯ

## ШУКАНЬНЕ ВЫХАДУ, РАТУНКУ

(З архіву нябожчыка Архіепіскапа Васіля)

Крызыс сучаснае культуры ды страх, які апанаваў цяперашні сьвет, спарадзілі ўжо ня мала розных арганізацыяў і ўстановаў, якія шукаюць выхаду з сьляпое вулічкі, у якую завёў нас наш самалюбны розум. Цэнтрам усякіх такіх арганізацыяў зьяўляецца Швэйцарыя. Магчыма таму, што тут у горах чалавек хоць крыху супакойвае свае нэрвы й сяк-так можа мабілізаваць свае духовыя рэсурсы да лягічнага думаньня. Адною з такіх арганізацыяў зьяўляецца „Маральнае азбраеньне Эўропы", якая прыцягвае да супрацоўніцтва вызначных палітыкаў, дыпляматаў ды вышэйшых вайскавікоў. У зьездах гэтае арганізацыі ў КО прыймаюць удзел і прадстаўнікі нашых паняволеных народаў. Мэта яе: змаганьне з рознымі дыктатурамі шляхам маральнага дасканаленьня людзей і народаў, перадусім вядучых слаёў, інтэлігенцыі . . . Думка добрая й карысная, аднак, да выхаду з існуючага стану яна не прывядзе хоць-бы таму, што ўсе гэтыя сымпатычныя людзі раз у год прыедуць пагаварыць, ды ізноў вяртаюцца да свае працы ў партыях, парлямэнтах ды ў вайсковых адзінках, верачы далей у сілу людзкога розуму . . .

Другім такім спосабам шуканьня выхаду з цяжкога стану становяцца таксама гадавыя „Сустрэчы" у Жэневе. Галава й арганізатар іх праф. Бабель склікае на гэтыя „Сустрэчы" чаловых інтэлектуалістых і палітыкаў сьвету. Аб чым дыскутуюць тут вучоныя й палітыкі? Тэмаю апошніх „Сустрэчаў", якія адбыліся ў верасьні г. г., была „Сучасны страх і смутак". Для цікавасьці чытачоў прывядзём тут некалькі галоўных думак рэфэрэнтаў: „Сучасны намадызм (разумеюцца зьвыш 30 мільёнаў уцекачоў) ёсьць выразам нялюдзкасьці нашае эпохі". Цікавая думка з праблемы сучаснага страху: „Усе гавораць пра мір, але асягнуць яго нельга, і ўсе адчуваюць: не, супакою ня будзе. Маральныя асновы пазбаўленыя **сваіх пунктаў апору.** Дзе шукаць збаўленьня? (пытае праф. Бабель). Дзе-ж можам шукаць яго, калі сучасная навука й тэхніка робяць такія адкрыцьці, якія родзяць гэты самы страх, гэты смутак перад нейкім няўмольным конам" . . . І вучоныя прыходзяць да вынiку, што мы можам мець толькі надзею на тое, што людства пераможа сучасны страх пры пашанаваньні свабоды й права чалавека . . . Вучоны А. Піко сьцьвярджае, што яшчэ ніколі чалавек не адчуваў свайго бясьсільля (!) так выразна, як цяпер . . . Цікавы парадокс выказаў вучоны Марыяк. Ён бачыць выхад з бяды ў тым, што „кажны чалавек будзе дабрасумленна выконваць свае абавязкі. Але, вось, маем вучонага, які ў лябараторыі працуе над канструкцыяй атамовай бомбы. Ён, як вучоны, робіць сваё, а хто выкарыстае ягонае адкрыцьцё, і як? Так, страх пранік ужо і ў лябараторыі вучоных" . . .

Ня будзем пералічаць тут усіх паважаных вучоных, якія давалі свае рэцэпты аздараўленьня. Успомнім толькі яшчэ Р. Шумана, былога францускага міністра замежных спраў і аўтара пляну яго-ж імя для аб'яднаньня Эўропы. Ён уважае, што адзіны наш ратунак у брацкім паразуменьні ўсіх народаў-нацыяў. Эўропа можа яшчэ выканаць сваю культурную місію, але наперад яна сама павінна аздаравіцца. Самыя збраеньні нас не ўратуюць. Мы, розныя народы, павінны падаць сабе рукі". Так „шукаюць" ратунку, выхаду з загрозьлівага стану сучасныя вучоныя й палітыкі сьвету. Тымчасам толькі заўважым, што Навукі Ісуса Хрыста, мудрасьці Божае, хоць-бы як адное з магчымасьцяў, тут ніхто не паста-

віў побач з лябараторнымі „рэцэптамі", хоць некаторыя вучоныя й карысталіся такімі выразамі, як „Боскія й людзкія правы".

І тут „плян" Шумана ўсім найбольш спадабаўся, і нам у тым ліку. Аднак, што да вартасьці яго, і высілку ўсіх гэтых вучоных „Сустрэчаў", скажам словамі журналістых, якія таксама зьехаліся з усяго сьвету да гэтае лябараторыі нашага выбаўленьня: „Нам патрэбныя галовы! Дайце нам разважныя галовы!" Бо вось цікавая рэч у тым, што Шуман хацеў бы падаць руку ўсім народам, у тым ліку хіба й нямецкаму, тымчасам ягоны народ праз свой парлямант баіцца гэтага й хутчэй-бы падаў руку таму д'яблу, ад якога шукаюць збавеньня найбольшыя сучасныя вучоныя! А ці толькі адзін францускі народ хацеў бы так выбавіць сябе? Нажаль, ня ён адзін амаль адкрыта йдзе на сваю загібель. Навет у Эўропе ёсьць больш такіх партнэраў яго. Чаму?

Чаму перадусім так нізка ўпаў той народ, які першы ў Эўропе быў творцам ня толькі лёзунгаў, але й самае асновы сучаснае дэмакрацыі, якая мела на мэце свабоду й гонар чалавека? Як той Пілат, паказваючы жыдом Хрыста, сказаў: — Эссэ Гомо, (гэта-Чалавек), так францускі народ паказаў сьвету сябе й сказаў: свабода, роўнасьць і брацтва! Вялікія словы! За іх і цяпер ідзе барацьба. Аднак, чамусьці гэты тады такі геройскі народ, духова не запладніў ані сябе, ані рэшты сьвету, бо-ж і ён паўтара стагодзьдзя шукае ратунку ад свае поўнае загібелі.

Можа ў лёзунгах — свабода, роўнасьць і брацтва ня было праўды? Не, праўда ў іх была, ды не малая, бо ўзятая з Навукі Ісуса Хрыста й сьв. Апосталаў. Бяда толькі ў тым, што ані французы, ані іншыя народы ня думалі пра тое, што творца гэтае праўды Сам Бог, і прад Ім ня грае ніякае ролі ані стан, ані багацьце, ані раса, ані што яшчэ іншае, прад Ім усе роўныя, усе свабодныя, усе браты. Тагачасная француская інтэлігенцыя гэтага бачыць не хацела, а за ёю й інтэлігенцыя іншых народаў, бо хацела ўважаць сябе за творцу гэтае праўды й гэтых сваіх лёзунгаў.

І так адразу ў аснову новага жыцьця ўвайшоў вялікі блуд, а гэтым і зародак упадку — антропацэнтрызм: ня Бог аснова нашага жыцьця й наш Заканадаўца, а — чалавек! Таму й паставілі на пьедэстал людзкі розум і пачалі яму пакланяцца. А паколькі чалавек найбольшая сьвятасьць, дык яму й усё дазволена. І калі спачатку, у часы гуманізму й рэнэсансу, у душы людзкой яшчэ жыў хоць цень Духа Божага, таму ў культурнай творчасьці ўсё яшчэ пераважала духовае над матарыяльным. Чалавек усё яшчэ імкнуўся да духовага шчасьця, або хоць-бы да духовага вызваленьня, хай сабе й ня служэньні Богу, дык прынамсі ў культурнай працы. І гэты ўжо толькі цень Духа Божага быў крыніцаю адраджэньня навукі, літаратуры й мастацтва. Здавалася-б, гэта толькі цень будучае культуры, падножжа яе, бо-ж адкрыліся вялізарныя магчымасьці, даканалыя перспэктывы. Але гэтага ня сталася й стацца не магло, бо вуглавы камень усяе людзкае духовае будовы быў фальшывы, бо будова гэтая распачыналася на пяску. Паставіўшы ў цэнтры увагі, як альфу й амэгу, чалавека, памаленьку, незаўважна людзі пачалі духова падаць, бо ўсё шчасьце сваё бачылі ў забясьпечаньні сваіх цялесных выгодаў і раскошаў. Так памаленьку мейсца духовага шчасьця заняло шчасьце матарыяльнае. І гэтае шчасьце матарыяльнае, як прымат, як аснова й мэта нашага йснаваньня, было вось зьместам лёзунгаў францускае рэвалюцыі. Цяпер мы бачым, да чаго гэты зьмест давёў перадусім самых французаў.

І гэты фальшывы матарыялістычны зьмест, гэты зародак упадку выразна праяўляўся ў жыцьці Францыі ўжо хутка пасьля рэвалюцыі, але засьлепленыя людзі ня бачылі гэтага, і, замест фальш направіць, яшчэ пагаршалі яго. На гэтым гнілым грунце пачалі вырастаць такія порхаўкі, як Бабёф і Буанароцці, Бланкі і Кабэ, а пасьля і запраўдныя мухаморы: К. Маркс, Ф. Энгельс, У. Ленін, ну, і Сталін...

І вось табака гэтых порхаўкаў і мухамораў пачала яшчэ больш дурманіць людзей. Усё закружылася: матэрыя й дух. Зьявілася маса ўсякіх „ізмаў", кажны на аснове „навуковых" доказаў. Тымчасам кажны „ізм" толькі пагаршаў сытуацыю, павялічваў бяду, зманваў людзей. Таму навет „салідная" навука на паслугах гэтых „ізмаў" пачала апраўдваць іхны зман сваімі тэорыямі рэлятывізму, умоўнасьці. Так у нашыя часы ўсё сталася адносным, умоўным: праўда, справядлівасьць, навет розум людзкі. Сяньня навет людзі з тытуламі дактароў і прафэсараў пішуць такія трактаты як: „Вар'яцтва й паэзія", „Мастацтва й псыхіятрыя" і г. д. І ня дзіва, бо-ж калі сама праўда толькі ўмоўная рэч, калі межы між дабром і злом зацерліся, дык якія тут могуць быць межы між вар'яцтвам і здаровым розумам?! Так зрадзілася мноства розных айнштайнікаў, якія, як каты розных колераў на ўсякі спосаб расьпінаюць Адвечную, Абсалютную Праўду, з мэтамі пашырэньня на сьвеце ня ўмоўнага, а абсалютнага зла.

І зло, ваюючы матарыялізм трыумфуе. Ён трыумфуе ня толькі ў Крамлі, але і ў Парыжы, Лёндане, Ню Ёрку ды ў іншых вялікіх гарадох, мала таго, ён жыве ў крыві кажнага з нас! У крыві кажнага найбольшага вучонага, самага дэмакратычнага джэнтльмэна! Ён жыве ў галовах і душах навет сучасных пастыраў-фарысеяў. Даволі ўспомніць альянс патрыярха Аляксея (ды ці толькі яго?) з... Сталінам! Ды даволі глянуць ня толькі на баксэраў, але на самых гледачоў, каб адразу пабачыць, что ўсюды пануе толькі культ цела, і... крыві! Гэты культ усеўладна запанаваў і сярод жанчын, навет мацярок, якія рознымі хварбамі й адкрытымі грудзямі самы дэмаралізуюць сваіх уласных дачушак. Так, усё прыносіцца на алтар культу загрозьліва-хвароблівага сэксуальнага матарыялізму. Сучасны сьвет, у якім ужо Абсалютнае Праўды няма, а гэтым няма й ніякіх непарушных маральных асноваў, ніяк ня можа супрацьставіцца разбуральнай практыцы мадэрнага шатана. Бо ці-ж можна яму супрацьставіцца амаль купальнымі жаночымі касьцюмамі на вуліцах, хварбамі, боксамі, барамі, сучаснымі кінамі? Не, бо якраз тут ён і жыве

Вось-жа, ваюючы матарыялізм пагражае сьвету ня толькі танкамі, гарматамі й пятымі калёнамі. Не, ён пагражае перадусім выкрыўленьнем, сапсуцьцем душаў людзкіх! А ўжо ад гэтага сапсуцьця не ўратуюць нас ніякія танкі й гарматы, навет калі-б гняздо шатана й было зьнішчана. Ад яго не ўратуюць таксама ніякія „Сустрэчы" і рэцэпты добрых сымпатычных людзей, якія толькі між іншым успамінаюць Бога, шукаючы леку на цяперашнюю хваробу чалавецтва. Бо гэтая хвароба ўжо хранічная, яна мае найменш стогадовую даўнасьць. Ужо ў 1921 г. М. Гандзі сказаў: „Апошняя вайна адкрыла шатанскую прыроду эўрапейскае цывілізацыі. Усе законы маралі пагвалчаныя пераможцамі, усякая брахня ўважаецца за праўду. І прычыка ўсіх гэтых амаральнасьцяў груба матарыялістычная... Эўрапейская цывілізацыя дбае толькі пра матарыяльнае дабро, але не пра дабро душы. Яна робіць эўрапейцаў рабамі мамоны, ніздольнымі да сталага супакойнага жыцьця. Гэтая шатанская псыхалёгія можа зьнішчыць сама сябе"...

І ў гэтых словах шмат праўды. Сучаснае аддаўна зматарыялізаванае дэмакратычнае грамадзтва ня можа загарадзіць дарогу трыумфуючаму матарыялізму. Ня могуць гэтага зрабіць і ніякія добрыя пажаданьні вучоных ці палітыкаў, пакуль сярод нас будзе панаваць культ шатанскага матарыялізму з ягонымі цялеснымі ўцехамі, рознаю распустаю, зманам, ілжою, гвалтам ды ўмоўнасьцю дабра й зла.

Гэтае сучаснае ідалапаклонства было запачаткаванае фальшывасьцю зьместу лёзунгаў францускае рэвалюцыі, паводля якога было абвешчана: чалавек — наша мэта. І гэты фальш мсьціцца цяпер. Гэты фальш палягае ў тым, што розум людзкі вельмі абмежаваны ў параўнаньні з Прамудрасьцю Божай і тайнамі, Загадкамі Жыцьця. Таму чалавек часта груба памыляецца, блудзіць, спрычыняе безьліч зла. У выніку гэтага — падае з п'едэсталу, на які сам сябе ставіць, ды дзеля гэтага ўжо ўважаецца за звычайную жывёлу. Словам, з тэзы: чалавек — усё, сам сабе — бог, прыходзіць да антытэзы: чалавек — нішто, гной, таму яго можна бяз ўсякае згрызоты сумленьня масава, у міліёнах, мучыць і нішчыць. Прыкладаў, ці доказаў, хіба маем даволі! А зьнецаніўшы чалавека, адначасна зьняцэньваюцца й цэлыя народы, ужо ня толькі клясы, і таксама нішчацца ў імя фальшывых багоў. Так трагедыя чалавека пераходзіць у трагедыю народаў і усяго людзтва. Гэта лягічны й гістарычны вынік закалдованага кругу згубнае тэзы: чалавек, як матэрыя — наша мэта!

І найлепшыя сучасныя галовы стараюцца знайсьці выхад з гэтага закалдованага кругу. Яны стараюцца знайсьці сучасную СЫНТЭЗУ, як новую ІДЭЮ. Нажаль, шукаюць яе тымчасам фальшыва, бо самы абцяжаныя хваравліваю спадчынаю мінуласьці, нашым сучасным першародным грэхам. Таму журналістыя на жэнеўскіх „Сустрэчах" і адчулі гэты фальш сучасных рэцэптаў збаўеньня й прасілі: „Дайце нам разважныя галовы"! Тымчасам гэтая сынтэза ўжо даўно нам дадзеная. Што гэта за сынтэза; і Хто нам яе даў?

(Заканчэньне будзе)

(Але заканчэньне ня знойдзена. Тэкст пяцілетняй даўнасьці — **Рэд.**)

## БЛУД "АТЭІЗМУ"

**З ПАНЯВОЛЕНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ**

Як ведама, у бальшавікоў нічога ня робіцца нармальным парадкам: то „стаханаўшчына", то „ўдарнасьць", то „соцспаборніцтва", то ўзяцьце нейкіх „рубяжоў", і ўсё гэта спад прыгону. Таксама прыпусьцілі ўдарнасьць на змаганьне з рэлігіяй. Узьнімаецца штораз большы супрацьрэлігійны галас і, як звычайна, тон задае Масква, цэнтр бальшавізму. Змаганьне бальшавізму з рэлігіяй ідзе, амаль вылучна, па лініі змаганьня з хрысьціянствам. Хрыстос уяўляецца ім найбольшым ворагам, а прыяцелем стаўся той самы спакусьнік Хрыста, дух зла, які казаў: — Пакланіся мне, і будзе Табе ўсё, — кажучы мовай бальшавізму: — „паводля патрэбы". На падбой рэлігіі ставіцца ўсё, пачынаючы ад школ, праз усю прэсу і ўсе таказваныя культурна-асьветныя ўстановы, праз усе прадпрыемствы і ўсе віды мастацтва, і канчаючы судамі, канцэнтрацыйнымі лягерамі й тымі псіхушкамі" — вылучным вынаходам бальшавіцкае лябараторыіі.

Хтось Анатоль Круглоў у артыкуле „Пра атэістычнае выхаваньне" („Полымя", №2, 1975 г.), разглядаючы манаграфію некага Платонава Воспитание атеистической убеждённости — (часапіс „Беларусь", 1973), зазначае: — На наш погляд, у ёй недастаткова аналізуецца атэістычная літаратура (усяго 5 старонак на 143 кнігі, выдадзеныя па падлікам самога аўтара, у рэспубліцы ў 1959-1972 гадох)". А, пэўна-ж, той Платонаў не падлічыў усіх тых „атэістычных" кніг; а розных артыкулаў у часапісах і газэтах не да змогі пералічыць. Адна азнака лучыць усе гэтыя „атэістычныя" выданьні — гэта спасылкі на Леніна, як на непамыльны й непарушны, найвышэйшы аўтарытэт. Вось-жа й тут крыецца ілжа, так як на ілжы заснаваны ўвесь бальшавізм.



Калі-б гэтае зьявішча было атэізмам, то атэісты маглі-б ставіцца да рэлігіі адмоўна або абыякава, але такой заўзятай прагнасьці змаганьня з рэлігіяй да зьнішчэньня яе ў атэіста ня было-б. І такога нахабства, гвалту, зьняволеньня й зьдзеку над людзьмі ня чынілі-б. Дык-жа не атэізм прапагуецца, але падсоўваецца людзям вера ў Леніна й марксоўска-ленінскую навуку. Выглядае гэта на змадэрнізаванае ідалапаклоньніцтва. Нездарма-ж наладжваюць паломніцтвы да маўзалею Леніна, а статуяў яго настаўлялі ўсюды пры большых людзкіх паселішчах. І Маркс і Ленін, ведаюць, менш турбаваліся развагаю над тым, якое будзе людзкое жыцьцё пры камунізьме, які запавядалі; ведочна іхная разважнасьць на першы плян ставіла пытаньне, як лепш арганізаваць кіраваньне людзкім жыцьцём, прасьцей кажучы — як ушчаміць людзей да ўладарства над імі. Прынамсі, у Леніна гэта выявілася зусім выразна. І вось навука Хрыста стала запярэчаньнем гэтым імкненьням, як і тым матэрыялістычным тэорыям.

Ленін меркаваў расправіцца з рэлігіяй так, як расправіўляўся з палітычнымі праціўнікамі. Першым словам у яго стратэгіі было — „расстрелять!" — гэта да актыўных праціўнікаў сваіх. Да пасыўных — астрогі й Сібірскія разлогі — балазе, дарогу туды ведаў.

Не ад рэчы будзе тут памянуць Царкоўную Герархію нашае Аўтакефальнае Царквы, устаноўленую на Саборы ў Менску ў 1922 годзе: Мітрапаліта Мелхісэдэка, Епіскапа Філярэта Бабруйскага, Епіскапа Мікалая Слуцкага і Епіскапа Яна Мазырскага. Усе яны незадоўга па Саборы былі арыштаваныя. Цьмяныя весткі пра іх гэткія. Мітрапаліт Мелхісэдэк, кіданы па сібірскіх лягерох, на цяжкой працы, у 1930 годзе быў выкліканы ў Маскву праз Мітрапаліта Сяргея, які зрабіў некую дамоўленасьць з бальшавікамі, прызнаючы іх, як законную ўладу. Але Уладыка Мелхісэдэк перанёс катаржальную працу й сібірскія пакуты, а да гэткага суслужэньня, відаць, сэрца ня вытрымала: у часе аблачэньня да Багаслужбы ён памёр. Епіскапы паўміралі ў астрогах: Ян Мазырскі ў 1927 г., Мікалай Слуцкі у 1931 г., Філарэт Бабруйскі ў 1939 годзе. Загінулі ў астрогах і ўсе дзейныя сьвятары: С. Кульчыцкі, Д. Паўскі, М. Навіцкі, А. Пігулеўскі, А. Кіркевіч ды іншыя. Вечная ім памяць!

Руйнаваньне царквы працягвалася. Успамінаны вышэй Анатоль Круглоў піша: — Так, спасылаючыся на дакладныя крыніцы, Р. Платонаў паказвае, што ў канцы 50-х гадоў на тэрыторыі Беларусі вялі рэлігійную прапаганду звыш 900 праваслаўных цэркваў і малітоўных дамоў 154 касьцёлы, больш за 300 зарэгістраваных і каля 200 незарэгістраваных розных рэлігійных груп". Тут трэба адцеміць, што ў лічбе 900, агульнай для цэркваў і малітвеных дамоў, напэўна найбольш, сказаць так, малітвеных пунктаў, якія маглі й могуць быць ня сталымі, а перамяшчальнымі, — усё-ж, тыя „атэістыя" ня хочуць хваліцца руйнаваньнем сьвятыняў, а іх асталося ўжо мала. Аднак, калі гэтыя дадзеныя праўдзівыя, то яны паказваюць, што антырэлігійная акцыя дае вынікі хутчэй супрацьлежныя. Запраўды, калі чалавек ушчэмлены ня толькі фізычна, але й духова, то надзея вызваленьня астаецца толькі на Бога, і вера ў Бога будзе ўзмацняцца.

Выглядае так, што ўжо прамінула першая фаза антырэлігійнага паходу. Яна азначалася — руйнаваньнем сьвятыняў (колькі іх паўзрывалі!), вымардаваньнем сьвятарства, ганебным зьнеслаўленьнем рэлігіі, кпінамі й вульгарнымі лаянкамі ды зьняволеньнямі ў тым „Архіпелагу Гулаг" і „псіхушках". Цяпер антырэлігійны агітпроп пераапранаецца з воўчае ў лісіную скуру. Розныя „аглядчыкі антырэлігійнай літэратуры" перасьцерагаюць іншых аўтараў ад вульгарных, кпінлівых і зьдзеклівых

адносін да вернікаў і да царкоўных кніг, асабліва да Бібліі, зазначаючы, што ў Бібліі трапляюцца ведамкі гістарычнага характару, маюцца пэўныя агульначалавечыя вартасьці. Гэта пішуць аўтары Анатоль Круглоў і Іван Рэкуц у часапісе „Неман", № 5, 1974 г. у артыкуле „Папулярна — значыць таленавіта" (парасейску), перасьцерагаючы іншага аўтара А. Юрэвіча, які пісаў, што Біблія ўся абаснавана на вымыслах і становіць адну „бесталковіцу", і таму „будзе збавёны той, хто яе выкіне вон".

Цяпер галоўная ўвага скіравана на школы й навуку. Вядома, не абмінаюцца й пазашкольныя сьціхары й не забываюцца суды й зьняволеньні. Заўважаецца аднак і сьмяласьць супраціў вернікаў. Як відаць з усей тэй пісаніны, скутак тэй „атэістычнай" прапаганды зусім непацяшальны для агітпропу. Усьцяж заклікі да актывізацыі змаганьня. І пішуць, пішуць кандыдаты навук, пішуць і мыляюцца, на Леніна аглядаюцца. Дайходзіць і да сьмешнага. Успомненыя Анатоль Круглоў і Іван Рэкуц, паказваючы на недахопы й памылкі гэтае літаратуры, пішуць:

„Гэта адносіцца перш за ўсё да трактаваньня сацыяльных карэньняў рэлігіі. Блытаючы з клясавымі, дзе хто проста цьвердзіць, што ў нашай краіне зьнішчаны сацыяльныя карэньні рэлігіі. Але гэта ня зусім так... Кажучы пра тое, што ў нас няма сацыяльных карэньняў рэлігіі, аўтары гэтым самым прызнаюць магчымасьць яе (рэлігіі — С-кі) йснаваньня без таковых. І калі пагадзіцца з падобнай думкай, то можна прыпушчаць, што яна захаваецца й пры камунізьме"... І каб паказаць, што яны ня згодныя з гэтым, у канцы дадалі: — Але гэта ўжо зусім непраўдзіва"... А непраўдзіва яно толькі дзеля таго, што да камунізму ня дойдуць, бо й сацыялізму ў СССР, у належным разуменьні, зусім няма. З гэтай самай рацыяй, як назвалі СССР, а найчасьцей з непараўнальна большай, можна назваць сацыялізмам усякі лад, які толькі йснуе на зямной кулі. А сьмешнае тут у тым, што выслаўленьне — „сацыяльныя карэньні рэлігіі ў клясавай няроўнасьці" — самога Леніна. І яго падхапілі „кандыдаты навук" і зрабілі лягічны выснаў: калі клясы ўжо зьліквідаваныя, то й карэньні павырываныя. Але іншыя разгледзеліся, што гэта дурнота, а на Леніна спасылацца тут ужо невыпадае. Ленін-жа лгаць не саромеўся, і тое выслаўленьне яму спатрэбілася да распальваньня „клясавай" нянавісьці, а праўдзівей — чалавеканянавісьці. Калі-ж гаварыць пра карэньні рэлігіі, то яны заложаны ў натуры чалавека, і з імі чалавек нараджаецца на сьвет.

Дзіўным выдаецца, з якой настырлівасьцяй, бессаромнасьцяй і нахлотаю ўлазяць у прыватнае жыцьцё людзей і як дробязна разглядаюць усе спосабы ўзьдзеяньня, асабліва на моладзь у школе. Настаўнікам ставіцца ў абавязак, каб увязвалі ў кажную лекцыю супрацьрэлігійную прапаганду, так як сьпярша вымагалі, каб кажная лекцыя была „насычана камуністычным зьместам". Насычалі, аж пакуль усім стала ясна, што сам агітпроп ня ведае й не ўяўляе таго камунізму, да якога падганяе. Тымбольшаю ілжою прапоена ўся антыхрысьціянская прапаганда. Напрыклад, хтось Дз. Мацяс — кандыдат філязофскіх навук — разглядаючы кнігу Я. С. Кузьмітовіча — „Атэіст фарміруецца ў школе" („Народ. асьвета", 1975, № 3), крытыкуючы цьверджаньні аўтара, што „выхаваньне ў вучняў атэістычных паглядаў асабліва актуальна ў юнацкі перыяд жыцьця", піша:

— Хіба-ж атэістычнае выхаваньне малодшых школьнікаў менш актуальнае?... Але-ж далей у кнізе правільна гаворыцца, што атэістычныя перакананьні дзяцей менш устойлівыя ў малодшым узросьце, чым у старэйшым, значыць ,і разбураць іх лягчэй з першага году навучаньня ў школе. З рэлігійна настроенымі старшаклясьнікамі працаваць куды цяжэй".



Вось вам філязофія!.. Пытаньне — што разбураць? Паводля напісанага — разбураць атэістычнае перакананьне дзяцей(?). Але-ж, ўсёроўна, ці атэістычнае ці рэлігійнае, бо ў дзяцей яшчэ няма ніякага перакананьня. Дык што можна **разбураць** у дзяцей у школе? Адзінае магчымае — гэта разбураць нармальнае разьвіцьцё дзіцячага мысьленьня. І гэта праступства раўназначнае таму, якое практыкуецца ў ведамых ужо ўсім, „псіхушках" над людзьмі дарослымі.

Наляглі цяпер і на стварэньне новых абрадаў, нібы-то на грунце маркса-ленінскае ідэялёгіі. Тут таксама варта адцеміць, што бытавыя абрады маюць рэлігійную падкладку, маюць яе й новыя бальшавіцкія абрады; стараюцца некім чынам зьвязаць іх з Ленінам. І ўводзяцца яны з мэтай ліквідацыі абрадаў хрысьціянскіх. Уводзяцца гэткія, як пасьвячэньне ў работнікі ці прыймо на працу, адправы ў армію, і ўзамен хрысьціянскіх — народзін, хрышчэньня, а найбольш — вясельных. І замест вянчаньня, звычайна, пакланеньне Леніну, а далей, ужо як чый розум зьнясе. Апрача Леніна, уводзяцца такія атрыбуты, як абух і таўкач, ды падобныя іншыя, — усё там можа быць, апрача здаровага розуму. Праўда, гэтае зьявішча менш шкоднае. Людзі туды йдуць, як у цырк. І, вядома, сьледу ад гэтага ніякага не астаецца. Абрады-ж гэтыя адбываюцца таксама спадціску й прымусу.

Калі-ж уявіць сабе ўсю гэтую „атэістычную" акцыю й колькасьць людзкой энэргіі, затрачванай на яе, то досыць жудасна становіцца. Калі-б гэтую энэргію накіраваць на прадукцыю рэчаў, патрэбных чалавеку для жыцьця, то напэўна ня прышлося-б купляць сотнямі міліёнаў тон збожжа ў „капіталістаў", і ня было-б галечы й сталай недастачы рэчаў першае патрэбы.

**С-кі.**

❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖

## ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ СТАТУТУ

Статут Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, прыняты на Саборы 28 травеня 1972 году ў Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі, канчальна зрэдагаваны й падпісаны, набірае праўнае моцы з 1-га студзеня 1976 году. Усе статуты, ужываныя да гэтага часу ў епархіях і парафіях, уневажняюцца й трацяць сваю сілу.

Парафіі БАПЦ атрымаюць новы статут з Кансысторыі.

**Кансысторыя БАПЦ**

## УСПАМОГА ВЕРЫ

Як паведамляе прэса, Дэньні Бассэр, 14-ці летні удзельнік Біблійнага летняга лягеру каля Даўфіну, заблудзіўся. Праз даўжэйшы час, без пасьпеху шукаючы дарогі, ён прабыў у лесе 51 гадзіну, а толькі на трэйці дзень натрапіў на паселішча.

Камандат лягеру і ўсе ўдзельнікі кажны вечар маліліся за шчасьлівы паварот Дэньнія, і кажнага дня пры дапамозе паліцыі й мясцовага насельніцтва яго шукалі.

Вярнуўшыся да лягеру Дэньні сказаў: „Я зусім не нэрваваўся, бо верыў, што Бог мне дапаможа, і гэтая вера ў Бога мяне ўратавала".

## ПАДРЫХТОЎКА ДА ЎСЯЛЕНСКАГА САБОРУ

(Істамбул). Усяленскі Патрыярх Дымітры I, на запытаньне ў справе будучага Ўсяленскага Сабору, адказаў наступнае: „Падрыхтоўка да Сабору ўжо праводзіцца паміж Памеснымі Праваслаўнымі Цэрквамі. У гэтым часе абмяркоўваюцца пытаньні, якія маюць разглядацца на Саборы. Асабліва затрымоўваюцца над пытаньнем сабарнапраўнасьці, каб на Ўсяленскім Саборы прымала ўдзел ня толькі сьвятарства й багасловы, але й вернікі парафіяне. Згодна публікацыі грэцкага штодзённіка „Македонія", Патрыярх Дымітры таксама зазначыў, што сяньня яшчэ ня можна сказаць, калі такі Сабор будзе скліканы.

(Паводля „Веснік", №18, 15. 9. 1975 г.)

## НОВЫ ПЕРШАГЕРАРХ УКРАІНСКАЕ ГРЭКА-ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

У днёх 2-5 ліпеня праводзіўся 15-ты Сабор Украінскае Грэка-Праваслаўнае Царквы. Сабор адбываўся ў Канадзе у месьце Вінніпэгу. Да найважнейшых пастановаў Сабору належыць вырашэньне справы кіравецтва Герархіяй УГПЦарквы. На прапанову Сьвячэннага Сабору Епіскапаў і Кансысторыі кандыдатам на 3-га Мітрапаліта быў пастаўлены Архіепіскап Андрэй, правячы Архіепіскап Заходняе Канады. Сабор яго кандыдатуру зацьвердзіў аднагалосна, а Архіепіскапу Міхаілу, які пасьля сьмерці сьв. пам. Мітрапаліта Іларыёна выконваў абавязкі Першагерарха Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Канадзе, Сабор прызнаў тытул Мітрапаліта, і на яго просьбу прызначана яму становішча Правячага Епіскапа Ўсходняе Епархіі.

Апрача гэтага Сабор пастанавіў прызнаць Епіскапу Барысу сан Архіепіскапа, і выбраў кандыдата на 4-га Епіскапа а. Пратаерэя Міколу Дэбрына, сучаснага настаяцеля Парафіі УГПЦарквы ў Лёндане, Онтарыо.

(„Веснік", №14, 15. 7. 1975)

## З КАНСЫСТОРЫІ БАПЦАРКВЫ

Сабор Епіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы пастанавіў узнагародзіць за старанную й ахвярную працу:

Пратаерэя Аляксандра Кулакоўскага, настаяцеля Парафіі Сьв. Віленскіх мучч. Яна, Антона й Еўстафа ў Мэльбурне, у Аўстраліі — мітраю;

Пратаерэя Васіля Кендыша, настаяцеля Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку — паліцаю;

А. Аляксандра Яноўскага, настаяцеля Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк, Нью Джэрсі — залатым крыжам;

А. Яна Пякарскага ў Англіі — скуф'ёю.

Кансысторыя БАПЦ падае да ведама, што ад 7-га верасьня сёлета пачала працаваць Сьв.-Сафійская Духоўная Сэмінарыя Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША пры Радгерскім універсытэце ў Нью Брансвіку, Нью Джэрсі.

Паколькі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ня мае свае духоўнае школы, а патрабуе прыгатаваных духаўнікоў, мы радзім тым Беларусам, якія жадалі-б атрымаць духоўную асьвету, падацца ў вышэй названую сэмінарыю. У гэтай справе можна зварачацца да Кансысторыі БАПЦ.





## АХВЯРЫ НА КАНСЫСТОРЫЮ БАПЦАРКВЫ

### З Парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку:

| | |
|---|---|
| Мікола Гарошка | $100.00 |
| Мікола Заморскі | 100.00 |
| К. Тумаш | 50.00 |
| Віталі Кажан | 20.00 |
| Міхась Рагуля | 20.00 |
| Павал Яськевіч | 10.00 |
| А. Махноўская | 10.00 |
| Аляксандар Міцкевіч | 10.00 |
| Міхась Тулейка | 10.00 |
| Кастусь Верабей | 10.00 |
| **Разам:** | **$340.00** |

### З розных мясцовасьцяў

| | |
|---|---|
| Мікалай Грэбень | $50.00 |
| Аркадзь Ліхач | 40.00 |
| Мікалай Сьнежка | 20.00 |
| К. Стрэш | 20.00 |
| Барыс Русак | 15.00 |
| Люба Корчык | 10.00 |
| Сьцяпан Сацута | 10.00 |
| Леанід Вініцкі | 10.00 |
| **Разам:** | **$175.00** |

### З Парафіі ў Мэльбурне—Аўстралія

| | |
|---|---|
| Мікалай Барсток | $20.00 |
| Захар і Кацярына ? | 10.00 |
| Сям'я Кулакоўскі | 10.00 |
| Мікалай Устынаў | 6.00 |
| Антон Басарановіч | 5.00 |
| Ул. і Анна Карп | 5.00 |
| Сям'я Мілаград | 5.00 |
| Ул. і Анна Шшэрба | 5.00 |
| Мікалай Нікан | 5.00 |
| Мікалай Скабей | 5.00 |
| Мікалай Субач | 5.00 |
| Анастасія Тарасэвіч | 5.00 |
| **Разам:** | **$86.00** |
| | **(аўстрал. даляр.)** |

### З Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе

| | |
|---|---|
| Аўген Кабяка | $20.00 |
| Клаўдзя Каляда | 10.00 |
| Ірэна Сьмірнова | 5.00 |
| Марыя Шавейка | 5.00 |
| М. Калядка | 5.00 |
| **Разам:** | **$45.00** |

## НА ВЫДАНЬНЕ НАПРАСТОЛЬНАГА ЭВАНГЕЛЬЛЯ

### З Парафіі ў Манчэстэры- Англія — ў англ. фунтах

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Уладзімір Гінько | 10.00 |
| 2. | Прат. Ян Абабурка | 5.00 |
| 3. | Хведар Кажаневіч | 5.00 |
| 4. | Янка Пратасэвіч | 5.00 |
| 5. | Бел. Клюб у Манчэстэры | 5.00 |
| 6. | М. Грынько | 2.00 |
| 7. | Міхась Фрыс | 2.00 |
| 8. | Міхась Яськевіч | 1.00 |
| 9. | Янка Бурновіч | 1.00 |
| 10. | А. Сьпігуновіч | 1.00 |
| 11. | Марыя Чудоўская | 1.00 |
| 12. | Васіль Духно | 1.00 |
| 13. | Ануфры Занько | 1.00 |
| 14. | Адам Грыцкевіч | 1.00 |
| 15. | Эміль Бюман | 1.00 |
| 16. | Міхайла Фрыз | 1.00 |
| 17. | Прозьвішча нявыразнае | 1.00 |
| | **Разам:** | **44.00** |

## НА РЭМОНТ ЦАРКВЫ СЬВЯТОЕ ТРОЙЦЫ Ў ДОРАТЫ, Нью ДЖЭРСІ

### З Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк, Н. Дж.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Г. і В. Русак | $30.00 |
| 2. | Мікалай Войтэнка | 20.00 |
| 3. | Др. Галіна Сокал | 20.00 |
| 4. | В. і Н. Стома | 10.00 |
| 5. | Ян Сокал | 10.00 |
| 6. | Алег Дубяга | 10.00 |
| 7. | Аляксандра Даніловіч | 10.00 |
| 8. | Аляксандар Сільвановіч | 10.00 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 9. | Міхал Сільвановіч | 10.00 | 21. | Павал Кулеш | 10.00 |
| 10. | Вітаўт Кіпель | 10.00 | 22. | Расьціслаў Войтэнка | 10.00 |
| 11. | Пётра Кажура | 10.00 | 23. | Янка Азарка | 10.00 |
| 12. | Аўген Лысюк | 10.00 | 24. | а. Аляксандар Яноўскі | 10.00 |
| 13. | Уладзімір Сьліўка | 10.00 | 25. | Павал Шпуноў | 10.00 |
| 14. | Віктар Лосік | 10.00 | 26. | Анна Беляец | 5.00 |
| 15. | Уладзімір Лосік | 10.00 | 27. | Вера Кабушка | 5.00 |
| 16. | Аляксей Балкоўскі | 10.00 | 28. | Соня Дубяга | 5.00 |
| 17. | Міхал Януш | 10.00 | 29. | Уладзімір Харавец | 5.00 |
| 18. | Леў Стагановіч | 10.00 | 30. | Іван Літвыненка | 5.00 |
| 19. | Генадзі Дубяга | 10.00 | | | |
| 20. | Уладзімір Машанскі | 10.00 | | **Разам:** | **$315.00** |

## *ПАРАФІЯ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ*

### ПАМІНАНЬНЕ ДАСТОЙНІКАЎ БАПЦАРКВЫ

У нядзелю 5-га кастрычніка сёлета Беларусы ў Кліўлендзе ўшанавалі памяць Дастойнага Адраджэнца БАПЦаркві Сьв. Пам. Архіепіскапа Сергія, які адыйшоў у вечнасьць 2-га кастрычніка 1971 году. Разам узносіліся малітвы й за супакой душы першага настаяцеля Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе Сьв. Пам. Айца Еўфімія Якіменка, які ўпакоіўся 1-га кастрычніка 1963 году.

За супакой іхных душ пасьля Сьв. Літургіі была адслужана Паніхіда, перад пачаткам якой Уладыка Андрэй сказаў памінальнае слова, адзначаючы іхную вялікую прыслугу БАПЦаркве. Яны, сыны Украіны, прыйшлі да Беларускага Народу ў помач да зарганізаваньня рэлігійнага жыцьця нашае Царквы.

**Вечная Ім памяць!**

### † СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ ІРЫНА МІКУЛІЧ

Уначы з 24 на 25 чырвеня 1975 году адыйшла з гэтага сьвету матка дзяцей і бабка ўнукаў і праўнукаў, добрая парафіянка Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Кліўлендзе, Ірына Мікуліч. Памерла раптоўна, не хварэўшы, нікому недадзеўшы.

Вестка пра сьмерць хутка разьнеслася сярод Беларусаў і сярод яе знаёмых іншанацыянальных, а таму, як на Паніхіду, так і на паховіны сабралася вялікая грамада людзей.

У чацьвер увечары Паніхіда была адслужана ў бюры паховінаў, а ў пятніцу рана цела было перавезена ў Сабор БАПЦаркві, дзе каля труны зыйшлася ўся жалем апавітая радня.

Заўпакойную Літургію й чын паховінаў выканаў Уладыка Андрэй з удзелам хору з рэгентам братам Кіслым.

Пахаваная на магільніку Рыверсайд, які знайходзіцца недалека Сабору БАПЦаркві.

Застольныя Памінкі былі праведзеныя ў Бюры Паховінаў грамадзяніна Колодыя, дзе было выказана шмат добрых і шчырых спагадлівых слоў.

Няхай будзе Табе, Дарагая Парафіянка, лёгкаю амэрыканская зямля.

### У ГАДАВІНУ СЬМЕРЦІ МІКАЛАЯ ПЭНДА

У нядзелю 19-га кастрычніка парафіяне Парафіі Жыровіцкае Божае Маці паміналі свайго даўгалетняга Старасту. Выбраны яшчэ ў Нямеччыне на становішча Старасты на пачатку аднаўленьня БАПЦаркві, ён бесперапынна служыў Царкве да апошняга дня свайго жыцьця.

Пасьля Сьв. Літургіі Уладыка Андрэй, у асысьце Пратадыякана Міхала, пры поўным хоры й дображаданьні ўсіх вернікаў, адслужыў Паніхіду за супакой Ягонае Душы.

**Вечная Памяць!**



### ВЯНЧАНЬНЕ МАЛАДЫХ

9-га жнівеня сёлета адбыўся шлюб маладое пары — Галіны Каляда з Гэнрыкам Кэслер. Вянчаньне ў Саборы Жыровіцкае Божае Маці праводзіў Уладыка Андрэй з Пратадыяканам Міхайлам у суправоджаньні хору пад кіравецтвам брата Кіслага.

З увагі на маладога й ягоную радню й гасьцей абрад шлюбу адбываўся ў ангельскай мове.

А сёмай гадзіне ўвечары ў прыгожай залі на Мэдысан вуліцы пачалася Вясельная Бяседа. Быў запрошаны Уладыка Андрэй пачаць Бяседу малітваю й асьвячаньнем ежы. Гэта зрабіла паважнае ўражаньне на гасьцей, бо часта ў падобных выпадках пра малітву забываюцца.

Галіна Каляда й Гэнрык Кэсьлер — абое студэнты. Яны ўжо даюць сабе раду на здабыцьцё сродкаў на аплату за навуку й на іншыя неабходныя патрэбы. Прыемна адцеміць нацыянальную й рэлігійную сьведамасьць Галіны, — яна не пакінула свае Царквы й сваіх суродзічаў.

Вясельная Бяседа праводзілася ў вельмі прыемным і вясёлым настроі, пад добрую мелёдыйную бадзёрую музыку. На заканчэньне вясельнае ўрачыстасьці госьці шчыра абдарвалі маладых, жадаючы ім шчасьлівага, радаснага й доўгага жыцьця.

---

8-га жнівеня 1975 году на просьбу бацькоў быў ахрышчаны Робэрт Стэнлі, які нарадзіўся 27-га чырвеня 1971 году ад бацькоў Георга й Лілі Стэнлі.

---

10-га жнівеня 1975 году была ахрышчана Альжбета-Ганна Мк.Дэрмотт, дачка Вольгі й Яна Мк.Дэрмотт.

### ПАРАФІЯ БАПЦАРКВЫ Ў КЭМБРЫДЖЫ — АНГЛІЯ

#### Парафіяльнае Сьвята

Дня 25-га верасьня сёлета Парафія Нараджэньня Прасьвятое Багародзіцы ўрачыста адзначыла сваё Парафіяльнае Сьвята. У вызначаны час вернікі пачалі зьбірацца ня толькі з Кэмбрыджу, але й з іншых мясцовасьцяў, як: з Парафіі Ўсіх Сьвятых у Лёндане, з Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Бірмінгам-Вульвэргамптоне, з Парафіі Сьв. Першамучаніка Архідыякана Сьцяпана, якая належыць да грэцкае юрысдыкцыі.

Сьв. Літургія распачалася а гадзіне адзінаццатай. Служыў а. Марка, з паходжаньня ангелец, з Расейскае Зарубежнае Царквы, які на запрашэньне а. Яна Пякарскага прыехаў з сваім хорам і парафіянамі. Багаслужба адбывалася ў дзвёх мовах: царкоўна-славянскай і ангельскай. Хор сьпяваў наперамену. Калі а. Марка служыў пасьлавянску, хорам кіраваў брат Няслухоўскі, а калі служыў паангельску, хорам кіраваў брат Лявон. Кіраўнічы Парафіі а. Я. Пякарскі ўдзелу ў сьв. Літургіі ня прыймаў з прычыны нядугу, але Малебен да Прасьвятое Багародзіцы служыў разам з а. Маркам.

Пасля Багаслужбы ўсе перайшлі ў царкоўную залю, дзе ўжо быў прыгатаваны шчодры абед. Ежу на сталох пасьвяціў а. Марка. За прыгатаваньне супольнага абеду вялікая падзяка належыць сёстрам: Чэры, Веры Жакоўка, Вікторыі Стэчынскай і Маці Аляксандры, і асабліва брату Гралеўскаму, ў доме якога абед быў рыхтаваны, і працу якога ацанілі й ангельцы, прысутныя на абедзе, прыслаўшы яму некалькі лістоў удзячнасьці.

У часе банкету а. Ян Пякарскі прачытаў прывітаньне ад Уладыкі Андрэя, а ад сябе падзякаваў усім, хто спрычыніўся да арганізацыі сьвяткаваньня. Айцец Марка прачытаў прывітаньне ад Архімандрыта Калістоса з Парафіі Сьв. Тройцы ў Оксфордзе, якая належыць да грэцкае юрысдыкцыі. Архімандрыт Калістос быў запрошаны на сьвяткаваньне, але ня змог быць, бо мусіў выехаць на канфэрэнцыю ў Італію. Прамаўляў і сябра Парафіяльнае Рады ад імя грэцкае Парафіі Сьв. Ап. Першамучаніка Архідыякана Сьцяпана Бенэдыкт Энглэзакс, з паходжаньня Кіпрыйчык, добры прыяцель Беларусаў. Прысутнічалі на абедзе й два ангельскія сьвятары, якія служаць у царкве сьв. Міхаіла, дзе адбываюцца нашыя Багаслужбы.

На Застольнай Бяседзе прысутнічала больш за 70 асоб. У вясёлым настроі бяседа закончылася а гадзіне 6-й увечары. Малітву ўдзячнасьці Богу за памысны прабег сьвяткаваньня прачытаў Настаяцель Парафіі а. Ян Пякарскі.

### Паломніцтвы Беларусаў Кэмбрыджу

25-га травеня сёлета а. Ян Пякарскі разам з вернікамі ў Кэмбрыджы зарганізавалі паломніцтва да „Ангельскага Назарету", які знаходзіцца каля места Волсінгам. У гэтым месьце перад 700 гадамі зьявілася Маці Божая аднэй жанчыне. Там пабудаваны гістарычны манастыр, з сьвятынямі праваслаўнымі, пратэстанскімі, каталіцкімі, і кажны год там адбываюцца ўрачыстыя Багаслужбы. У гэтым годзе Сьв. Літургію правіў Пратаерэй Марк — ангелец, які належыць да расейскае Царквы. У часе Літургіі прыехалі грэцкія паломнікі з Лёндану й Грэн-Ярмос разам з сваімі сьвятарамі й Архімандрытамі Хрыстомасам і Хрыстафорам, да якіх далучыліся й беларускія паломнікі. Літургія правілася ў дзьвёх мовах: ангельскай й царкоўна-славянскай; у царкоўна-славянскай правіў а. Ян Пякарскі з сваім хорам, якім кіраваў бр. Няслухоўскі.

Пасьля Багаслужбы ўфармавалася працэсія каля 2-х тысяч малельнікаў, якія накіраваліся да таго месца, дзе зьявілася Маці Божая, і там пачарзе кажны сьвятар прачытаў Малебны Канон да Прасьвятое Багародзіцы.

13-га ліпеня а. Ян Пякарскі разам з вернікамі з Кэмбрыджу наведалі грэцкі манастыр Сьв. Яна Хрысьціцеля, які належыць да юрысдыкцыі Ўсяленскага Патрыярха. Грэкі прынялі беларусаў вельмі ветліва й пасьля Багаслужбы запрасілі на супольні абед. У часе абеду праводзіліся вельмі прыемныя сяброўскія гутаркі. Грэцкае сьвятарства азнаёмлена з тым, што а. Пякарскага прымаў на аўдыенцыі Экзарх Усяленскага Патрыярха ў Лёндане Атэнагорас II.

### Легалізацыя БАПЦарквы ў Англіі

У апошні час з Англіі надыйшла прыемная вестка, што пасьля доўгіх захадаў і клопатаў перад ангельскімі ўрадавымі чыньнікамі, нарэшце Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Англіі праўна прызнаная.



Захады да прызнаньня распачаліся амаль перад 4-ма гадамі. На працягу ўсяго гэтага часу ангельскія ўрадавыя чыньнікі патрабавалі шмат розных залучнікаў пра йснаваньне нашае Царквы наагул, а таму справа зацягнулася на гэткі даўгі час. Але з Божаю дапамогаю справа рэгістрацыі закончылася шчасьліва, і цяпер БАПЦарква ў Англіі стала праўнаю арганізацыйнаю адзінкаю.

### ПАРАФІЯ БАПЦАРКВЫ Ў МЭЛЬБУРНЕ — АЎСТРАЛІЯ

Сёлета ў Памінальную Нядзелю (11-га травеня 1975 г.) згодна з нашай традыцыяй і за прыкладам папярэдніх гадоў, пасьля сьв. Літургіі й Паніхіды, вернікі Парафіі сьв. Віленскіх мучч. Антона, Яна й Еўстафа начале з настаяцелем а. Аляксандрам адведалі магілкі суродзічаў, каторыя з Волі Божае адыйшлі ў вечнасьць. Не зважаючы, што на гэты дзень выпала ня зусім прыемнае надвор'е, усё-ж беларуская грамада была лічная. Амаль у цэласьці прысутнічаў і мілагучна пяяў царкоўны хор. Наведваньне магілаў супачылых суродзічаў закончылася на беларускай дзялянцы пасьвячэньнем новапастаўленага памятніка на магіле сьв. пам. Агафіі.

Дня 18-га травеня, карыстаючы з школьных канікулаў, Сястрыцтва пры Парафіі супольна з Парафіяльнай Радай зладзілі „пікнік", які адбыўся недалёка ад Мэльбурну. З прыемнасьцю трэба зазначыць, што на „пікніку" прысутнічала шмат суродзічаў — моладзі, дарослых і ў пажылым веку. Моладзь правяла весела час рознаякімі, цікавымі гульнямі, забавамі пад кіравецтвам сястры Тамары. Дарослыя гэтаксама выкарысталі нагоду для сяброўскіх гутарак, супольных, усім ведамых песьняў, танцаў пад такт знаных беларускіх мелёдыяў, выконваных на піяна-акардыёне ,ну і, ведама, пры шчырых, багатых пачастунках. Хацелася-б прысутнічаць на падобных „пікніках" часьцей.

18-га ліпеня Сястрыцтва пры Парафіі зладзіла „Зімовы Баль". Баль адбыўся ў густоўна ўпрыгожанай, вельмі раскошнай залі пры дасканалай кантынэнтальнай аркестры. Асабліва зацікаўленьне і шматлікія воплескі выклікалі нашыя маладыя танцоркі, што так удала выканалі народны танец. Ведама, Сястрыцтва й гэтым разам клапацілася пра абслугу прысутных пачастункамі. Прысутныя на балі засталіся пры вельмі добрым уражаньні, а Сястрыцтва ў сваю чаргу выручкай павялічыла сваю скарбонку. Частыя пытаньні: а калі зноў будзе гэткая нагода — пасярод сваіх так прыемна й весела правесьці час?

21-га верасьня, з нагоды „Дня Бацькі", Сястрыцтва супольна з Параф. Радай зладзілі „пікнік". На вялікі жаль, на гэты дзень не паслужыла нам надвор'е, аднак высілкі — стараньні Сястрыцтва й Парафіяльнай Рады далі добры вынік.

12-га кастрычніка адбылася зборка Сястрыцтва. На зборцы разглядаўся праект, які датычыць ня толькі Сястрыцтва пры Парафіі БАПЦарквы, але наагул суродзічаў пражываючых у Мэльбурне й ваколіцы. Улічваючы актыўнасьць і здольнасьці Сястрыцтва, хочацца верыць, што запраектаванае будзе зьдзейсьнена згодна з прынятай пастановай.

Дапамажы ім Божа!

1-га лістапада, 1975 г. Настаяцель Парафіі, а. Аляксандар ахрысьціў дачку Зофіі й Язэпа. Няхай Усемагутны абдорыць Язэпіну добрым здароўем, каб хутка расла на Славу Бога, на радасьць і пацеху бацьком, дзеду й бабцы ды на гонар беларускаму народу. Дай Божа!

## ПАРАФІЯ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў НЬЮ ЁРКУ

23-га сакавіка адбывалася Сьвята 25 Сакавіка — абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Пасьля Божае Службы Парафія прыняла ўдзел у Акадэміі ў Нью Ёрку ў Білтмор Гатэлі. 25-га сакавіка Настаяцель Парафіі а. Васіль Кендыш чытаў малітву ў Кангрэсе ЗША.

18-га травеня было Храмавое Сьвята. Напярэдадні, 17-га травеня, у царкоўным будынку мела сваю чарговую нараду Рада БАПЦарквы. Пасьля Малебну нарада праводзілася пад старшэнствам Уладыкі Мітрапаліта. У нарадзе прымалі ўдзел: Архіепіскап Мікалай, прат. а. Васіль Кендыш, прат. а. Карп Стар і сябры Рады з штатаў Нью Ёрку й Нью Джэрсі. Разглядаліся справы сувязі з іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі, з Патрыярхам Канстантынопальскім і неабходнасьць прыдбаньня Напрастольнага Эвангельля, выданьня Статуту БАПЦ ды іншыя.

Божую Службу ў часе храмавога сьвята ачоліў Уладыка Мітрапаліт, у суслужэньні Архіепіскапа Мікалая, Пратаерэяў а. Васіля й а. Карпа, і ў суправоджаньні хору пад кіравецтвам рэгента М. Тулейкі.

У сваім павучальным слове Уладыка Мітрапаліт гаварыў пра дзейнасьць Сьв. Кірылы Тураўскага, як прапаведніка XII веку, і пра яго значэньне для ўсей Праваслаўнай Царквы. Божая Служба закончылася Малебнам Удзячнасьці. Перад заканчэньнем Літургіі Уладыка Мітрапаліт абдарыў узнагароднымі граматамі Парафіяльную Раду й Сястрыцтва пры Парафіі.

Падчас абеду Інж. Мікола Гарошка прачытаў кароткі даклад з жыцьця й дзейнасьці Сьв. Кірылы Тураўскага. Удзельнікі абеду віншавалі Архіепіскапа Мікалая з днём народзін, які прыпадаў у гэтым тыдні, сьпевам Многая Лета!

1-га чырвеня пасьля Сьв. Літургіі служылася Паніхіда па Прэзыдэнту Рады БНР Міколу Абрамчыку. Служыў а. Васіль Кендыш. У сваёй казані а. Васіль адзначыў рупную й нясьпынную дзейнасьць прэзыдэнта на эміграцыі. Цярпліва пераносіў Ён недастаткі й нягоды жыцьцёвыя. Вера й надзея на лепшую будучыню свайго Народу падмацоўвала яго ў ягонай дзейнасьці.

8-га чырвеня парафіяне маліліся за свайго першага Епіскапа ў Адроджанай Царкве й свайго кіраўнічага Парафіяй Уладыку Васіля, які ўпакоіўся 9-га чырвеня 1970 году, будучы ўжо ў сане Архіепіскапа.

Сьв. Літургію й Паніхіду служыў а. Васіль Кендыш, і ў сваім памінальным слове прыпамінаў вялікую заслугу Архіепіскапа Васіля для БАПЦарквы. Пасьля Божае Службы ў залі пад царквою адбылася памінальная бяседа, якую падрыхтавала Сястрыцтва пры Парафіі. З памінальнымі ўспамінамі выступалі — Мікола Гарошка, Міхась Тулейка, Мікола Кунцэвіч, Зіна Станкевіч, Уладзімір Курыла, Пётра Манькоўскі.

***

Парафія ў Нью Ёрку лікам вернікаў невялікая. Тымбольш клопатаў у гаспадарскіх справах. Досыць вялікі царкоўны мураваны будынак і ўжо стары ўсьцяж вымагае рамонтаў. У гэтым годзе для забясьпечаньня ад вільгаці памалявана цэмэнтам заалтарная сьцяна — кошт 1650 даляраў. Больш за паўтысячы абыйшоўся рамонт канцылярыі, нягледзя на тое, што работа была выканана самымі парафіянамі, здальнейшымі да гэтага. Калі ўзяць на ўвагу розныя бягучыя рамонты, дык клопату, асабліва Старшыні Парафіяльнае Рады Міхасю Тулейку, можна сказаць, зусім дастаткова.

